# З ФОТО-КАМЭРАЙ

*Пагроза англа-амэрыканскіх паветраных піратаў. Цяжкая гармата нямецкай зэнітнай артылерыі, што ахоўвае гарады Эўропы ад ганебных налётаў плютакратычных гангстэраў. За апошні час лік зьбітых варожых самалётаў, дзякуючы сталым удасканаленьням нямецкай зэнітнай артылерыі, павялічваецца.*



*Нямецкая сельская гаспадыня асабліва ўвагу аддае на пашырэньне пасеўнай плошчы бульбы.*

*Унізе: З надыходам лета кола абавязкаў селяніна з дня на дзень павялічваецца. У час працы селянін заўсёды рупна клапоціцца аб сваіх пэўных памагатых — конях.*



*«Віншуем, спадар унтэрафіцэр, з новымі пагонамі», — кажуць нямецкія горныя стралкі свайму таварышу, павышанаму ў чыне за асаблівую адвагу.*





*Пасьля працы — прыемны і вясёлы адпачынак. Дзяўчаты з усходніх акругаў, што працуюць у Нямеччыне, на сваіх прадпрыемствах нярэдка наладжваюць паказы з песьнямі і скокамі. На здымку: дзьве маладыя работніцы ў нацыянальнай вопратцы выконваюць народны танец.*

# БЕЛАРУСКАЯ САМАПОМАЧ НА НОВЫМ ЭТАПЕ ПРАЦЫ

У вялікім змаганьні з сусьветным ворагам — бальшавізмам хваля вайны пакінула па сабе крывавы сьлед. Шмат людзей у віры гэтай ваеннай завірухі страціла увесь свой здабытак, застаючыся бяз ніякіх магчымасьцяў да далейшага існаваньня. Мільёны сіротаў і удоваў — гэта вынік ваенных падзеяў.

Каб загаіць балючыя раны, дапамагчы абяздоленым і заапекавацца над бяспрытульнымі, была пакліканая да жыцьця у дзень 22-га кастрычніка 1941 году Беларуская Народная Самапомач. Яна згуртавала пад сваёй эмблемай усе лепшыя сілы беларускае актыўнае інтэлігенцыі на адбудову зьнішчанага краю. Беларуская Народная Самапомач згуртавала людзей добрай волі, для якіх грамадзкая справа стаяла вышэй асабістае.

Беларуская Народная Самапомач была створана для харытатыўных мэтаў, аднак абставіны 1941 году вымагалі ад беларускае інтэлігенцыі згуртаванага дзеяньня у інтарэсе абароны бяздзяднага беларускага грамадзянства ад усялякіх ворагаў, якія спосабам правакацыі імкнуліся зьнішчыць перадавую частку беларускага актыву. Арганізацыя Беларускае Народнае Самапомачы ахапляла у той час амаль усе галіны жыцьця і дала ім асновы да самастойнага існаваньня.

Аднак, трэба прызнаць, што беларускае грамадзянства ня было цалкам задаволенае працаю Цэнтралі БНС. Усё гаварыла аб тым, што працу Беларускае Народнае Самапомачы трэба рэарганізаваць. У сувязі з гэтым 13 ліпня 1943 г. адбылася рэарганізацыя і была створаная новая падобная арганізацыя — Беларуская Самапомач, у скарочаньні БСП. За галоўнага кіраўніка быў пакліканы ведамы беларускі дзеяч спад. Юры Сабалеўскі.

Беларуская Самапомач мае чыста харытатыўныя мэты і два кірункі працы: «Сацыяльнае Забесьпячэньне» і «Ахова Здароўя».

Абавязак Беларускае Самапомачы — арганізаваць беларускі народ у шчыльныя і згуртаваныя шэрагі, каб лягчэй было перамагчы пры узаемадапамозе усе цяжкасьці, выкліканыя вайною.

Беларуская Самапомач — гэта дабраахвотнае аб'яднаньне грамадзкай апекі і аховы здароўя. Яна павінна аб'яднаць увесь беларускі народ у вадну згодную сям'ю, каб супольнымі сіламі ісьці да лепшага заўтра.

Псыхічная і матар'яльная адбудова нашага краю можа ажыцьцёвіцца толькі тады, калі мы з пэўнаю падрыхтоўкаю да працы уліёмся у пэўныя арганізацыйныя формы, дзе здабудзем грамадзкае узгадаваньне і дысцыпліну. Беларуская Самапомач дае беларускаму народу магчымасьць задзіночыцца у дабрачыннай арганізацыі і праз гэта дайсьці да нацыянальнага згуртаваньня.

Кажная грамадзка-дабрачынная арганізацыя, якая пабудавана на прынцыпе сяброўства, павінна утрымоўвацца з сяброўскіх узносаў і у ніякім выпадку нельга скарыстоўваць на гэту мэту ахвяры жыхарства. Дзеля гэтага абавязак кажнага сьведамага беларуса і беларускі — быць актыўным сябрам свае дабрачыннае арганізацыі; дапамагаючы ёй — гэтым дапамагаеш свайму народу.

Беларуская Самапомач, нягледзячы на цяжкія абставіны, у сваёй працы дасягнула даволі паважных вынікаў. Прыкладам, у 1943 годзе была зробленая вялікая дапамога беднаму жыхарству. Толькі у Менскай гарадзкой акрузе страўні БСП выдалі за наяўны разьлік 225.060 абедаў і 116.678 абедаў дармова. Было выдадзена прадуктаў харчаваньня у страўні БСП: мукі жытняй 12.625,65 кг., бульбы 44.873,35 кг., гароху 2.489,92 кг., тлушчаў 176, 27 кг. і г. д.

Была выдадзена беднаму жыхарству грашовая дапамога на агульную суму 202.024,50 руб. Апрача гэтага шмат дапамагла Самапомач беднаму жыхарству у бясплатным лячэньні, індывідуальна дапамагала і прадуктамі харчаваньня, вопраткай і пасьцельнымі прыладамі.

Беларуская Самапомач, нягледзячы на цяжкія абставіны, шмат прычынілася да палягчэньня жыцьця беларусаў і другіх нацыянальнасьцяў, якія з прычыны ваенных падзеяў знаходзяцца у цяжкіх матар'яльных абставінах.

Праца Беларускай Самапомачы цалкам асягне свае заданьні толькі тады, калі беларускае грамадзянства, разумеючы абавязак і патрэбу, уліецца у шэрагі Самапомачы і дружна пойдзе да агульнае працы на паляпшэньне лёсу нашых абяздоленых братоў... Няхай глыбака закрануць нашы сэрцы іхныя сьлёзы, іхнае гора; наш сьвяты абавязак — сьцерці гэтыя сьлёзы, ператварыць гора у радасьць.

*Б. С.*

## ЮРЫ САБАЛЕЎСКІ



*Былы Галоўны Старшыня БСП, Другі Віцэ-Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады Юры Сабалеўскі нарадзіўся 24. IV. 1889 г. у Стоўпцах. Бацька быў за чыгуначніка. У маладосьці Ю. Сабалеўскі здабыў прафэсію каморніка-будаўніка і працаваў па сваёй спэцыяльнасьці да 1914 году у Ліцьве, а пасьля, у 1920 годзе працаваў у Польшчы. У сусьветную вайну — ад 1915 году да 1918 году — служыў у царскай арміі.*

*Жыцьцё Юрыя Сабалеўскага зьяўляецца мініятурай нашага агульна-народнага жыцьця: грамадзкая праца, мамэнты змаганьня і турмаў перамяжоўваюцца з палітычнымі працэсамі, арыштамі, ссылкамі, эміграцыяй.*

*Ужо у 1919 г. пры першай бальшавіцкай акупацыі Беларусі Юры Сабалеўскі за беларускую працу зьяўляецца першым палітычным зьняволеным ЧК спачатку у Менскай, а пазьней і у Смаленскай турме. Пад польскай акупацыяй, бяручы актыўны удзел у змаганьні з паланізатарствам, становіцца у шэрагі Беларускай Сялянска - Работніцкай Грамады і бароніць інтарэсы беларускага народу у Польскім сойме як пасол кадэнцыі 1922-1928 г. г. Гэтая праца на карысьць беларускага народу выклікала на яго, напэўна, найдаўжэйшы у гісторыі беларускага вызваленьня працэс, які працягваўся ад 1922 да 1932 году. За гэты час прабыў Юры Сабалеўскі у польскіх вастрогах з перапынкамі 3 гады.*

*У 1927 г. Юры Сабалеўскі прабывае у Нямеччыне як палітычны эмігрант. Тут выяўляе ён засьценную гульню беларускіх ворагаў і польска-бальшавіцкую правакацыю у шэрагах Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Тады, з мэтаю аб'явіць гэтую подласьць, вяртаецца у Польшчу і дамагаецца над сабою суда, каб на ім публічна выкрыць варожыя намаганьні Масквы і Варшавы.*

*Перад пачаткам нямецка-савецкай вайны, у 1941 годзе Юры Сабалеўскі быў зноў арыштаваны бальшавікамі. Прасядзеў у Баранавіцкай турме аж да прыходу нямецкіх войскаў. Выйшаўшы з турмы, неадкладна бярэцца ізноў за грамадзкую працу, спачатку у Стоўпцах, а пазьней — у Баранавічах, займаючы становішча старшыні гораду. З 1-га ліпня 1943 году Юры Сабалеўскі займае становішча галоўнага старшыні Беларускай Самапомачы.*

*Апошні пэрыяд працы Юрыя Сабалеўскага у Менску цяжка ацаніць сяньня, бо ейныя вынікі для цэлага народу адчуюцца толькі з часам і гэта — справа пазьнейшай гісторыі. Аднак, шырокія колы грамадзтва ужо сяньня бачаць, як зьіначыўся характар арганізаванай грамадзкай працы і працы Беларускай Самапомачы пад старшынствам сп. Сабалеўскага і як на мейсца хаосу, выклікаўшага недавер, а часам і абурэньне шырокіх масаў, прыйшоў парадак і паўстала моцнае супрацоўніцтва у вактыўных колах грамадзянства.*

*Сяньня спадар Сабалеўскі — Другі Віцэ-прэзыдэнт БЦР. З пашанай і даверам спатыкае народ руплівую працу свайго апякуна, а моладзь бярэ прыклад і узор у грамадзкай працы.*

# ТАЛЕНТЫ З-ПАД СЯЛЯНСКІХ СТРЭХАЎ

Усё новыя і новыя таленты, што узрасьлі на беларускай зямлі, расьцьвітаюць на ніве роднай культуры.

Аджыў беларускі народ, загаварыла ягоная душа вуснамі песьняроў, пэндзалем мастакоў, пад пальцамі скульптараў-лепшчыкаў, выяўляючы багацьце і прыгажосьць нашае краіны, ейную радасьць, ейныя спадзяваньні.

☆

Нарадзілася яна у 1905 годзе у сялянскай сям'і, у беларускім мястэчку Мір.

Зьбіраў бацька апошнія грошыкі, каб падвучыць дачку, у людзі вывесьці. Але цяжка было беларускаму селяніну пры панаваньні царска-урадніцкае Расеі здабыць адукацыю.

А таленавітая была у Сташэўскага дачка Вера.



*Бюст Францішка Скарыны — праца скульптаркі-самавучкі В. Сташэўскай.*



*Лепка «Першы крок» (маці, якая правадзіць дзіця).*

Аджывала пад ейнымі рукамі няжывая гліна. Выходзілі з яе людзкія галовы, постаці...

Была-б гэта дачка расейскага урадаўца, або польскага пана — атрымала-б яна і стыпэндыі, і у мастацкую школу паехала-б, — і сталася-б яна тады моц за славутую скульптарку. Але яна была толькі дачкою беларускага прыгнечанага селяніна. А хто-ж з паноў «хамамі» цікавіўся?... Хіба для забавы...

Падвучыўшыся крыху у школе, мусіла Вера аб хлебе думаць, а не аб «забаўках» з гліны.

Гэткімі «забаўкамі» паном толькі можна займацца, а не беларускай «мужычцы».

☆

Так і ня змог у маладосьці разгарнуцца, адшліфавацца прыродны талент мастачкі-скульптаркі.

Ад часу да часу, калі ужо ахвота вялікая надыходзіла, налепіць сабе колькі фігурак з гліны, на шафцы сабе паставіць, ды зноў — за штодзённыя хатнія справы. Бо ніхто мастачкаю не зацікавіўся — ні расейскія, ні польскія апякуны культуры.

Мінулі гады. Маладая дзяўчына стала дзяўчынаю. Пабралася з селянінам тае вёскі, дзе мусіла зарабляць хлеб на пражыцьцё службаю пры царкве. Сямейныя справы, дзеці яшчэ больш адарвалі мастачку ад ейных скульптарскіх нахілаў. Прыход бальшавікоў змусіў кінуць ейную датулешнюю службу пры царкве і сэяцца за настаўніцтва.

Прыход нямецкіх войскаў і вызваленьне краю уліў новыя сілы у здольнасьці мастачкі.

Загаварыла ейная крывіцкая кроў. Успомніліся маладыя гады, ейны засуту пены жыцьцёвымі абставінамі талент. Вярнулася ахвота — тварыць. Тварыць для роднага краю, для свайго беларускага народу.

І вось Вера Сташэўская бярэцца за работу. Пад рукамі мастачкі-лепшчыцы ажывае зноў гліна, ператвараючыся у творы мастацтва. Ня маючы ні адмысловае школы, ні адпаведных узораў-мадэляў, мастачка творыць. З памяці вылепвае фігуры. Іх ужо шмат. Сярод іх — скульптура першага беларускага друкара Фр. Скарыны, «Першы крок» (маці, што правадзіць дзіця) і г. д.



*Адна з працаў скульптаркі-самавучкі В. Сташэўскай.*

Цікавая паводля свайго замыслу і выкананьня лепка — пагрудзьдзе старога беларускага селяніна з бутэлькаю у руках пад назовам «Апошняя пацеха».

Мастачка — дачка беларускай сялянскай сям'і — сваёй лепкай «Апошняя пацеха» прыпамінае тыя балючыя, праклятыя часы чужацкага панаваньня, калі апошняй пацехай ад урадніцка-панскага прыгнёту, ад бяды сялянскай, нэндзы і гора была бутэлька з атрутнаю гарэлкаю.

Цяпер мастачка пачынае працаваць над скульптурай «Кастусь Каліноўскі» і над іншымі скульптурамі.

Вера Сташэўская — адна з многіх, яшчэ неадкрытых талентаў з сыноў і дачок беларускае зямлі — працуе на карысьць свайго народу і сваёй культуры. Апошнімі часамі яна рыхтуецца да велялёкай мастацкай выстаўкі у Слоніме.

*С. Дзв.*





*В. Сташэўская пры лепцы фігуры «Апошняя пацеха»*

# Славуты беларускі мастак



*Іван Хруцкі, сябра Пецярбургскай Акадэміі Мастацтваў (1810—1885); алейны аўтапартрэт, намаляваны у 1884 г. у фальв. Захарнічах (Полаччына); партрэт знаходзіўся да 1930 г. у Захарнічах у доме Хруцкіх і што з ім сталася пасьля — няведама. Здымак зроблены з фатаграфіі партрэту фат. Шыманчыкам у Слоніме.*



Захопнікі беларускіх земляў — палякі і расейцы — не абмяжоўваюцца зьнішчэньнем краіны, яны прысвойвалі сабе і душы беларусаў, а таксама і скарбніцу беларускае культуры, ейныя вялікія таленты — паэтаў, кампазытараў.

Перад намі ляжыць ведамая расейская «Большая Энциклопедия Брокхауза». На літару Х. амаль на палове балонкі гаворыцца аб «известном русском художнике — академике Иване Хруцком». А у польскай кнізе з гісторыі польскага мастацтва „Dzieje malarstwa w Polsce, prof. dr. Koper", наадварот, Іван Хруцкі залічаны да польскае скарбніцы культуры.

Хто-ж быў Іван Хруцкі? Іван Хруцкі быў беларусам. Нарадзіўся ён у 1810 годзе у в. Усая, на Полаччыне, у сям'і вуніяцкага сьвятара Тамаша Хруцкага, дзяды і прадзяды якога адвеку жылі на Беларусі у Полаччыне, Меншчыне і Піншчыне, як дробная беларуская шляхта.

Паводля успамінаў унука Івана Хруцкага, у сям'і бацькоў мастака мова была беларуская, а маці мастака насіла беларускую вопратку, у якой яна і намаляваная на адным з партрэтаў працы Івана Хруцкага. Мастак атрымаў сваю адукацыю у Полацкай Акадэміі пры кляштары піяраў. Пасьля вучыцца у вышэйшай школе пры Акадэміі мастацтваў у Пецярбурзе, якую скончыў пасьпяхова і быў узнагароджаны залатым мэдалем, а таксама атрымаў стыпэндыі на паездку замежы для дасканаленьня свае мастацкае тэхнікі.

Іван Хруцкі адразу сваімі малюнкамі нацюрморту бярэ увагу найшырэйшых мастацкіх колаў Пецярбурга і Масквы. Ня менш ...

партрэтысты.

Акадэмія Мастацтваў ... Пецярбурзе закупляюць ... ка для сваіх збораў. Т... ягоныя абразы і Румянц... Маскве для свае галер...

Слава мастака заход... палярну, і ён выконвае ... для царскага двара, атр... рача узнагародаў дару... пярсьцёнак, а ад цары... гадзіньнік.

У 1839 годзе Акадэмі... Пецярбурзе залічае ... Хруцкага да сваіх сябр...

У 1844 годзе мастак ... ным маленькім фальвар... чыне і атрымлівае запр... рускага мітрапаліта ... прыехаць у Вільню ... стасаў і сьценаў у ... ейных аколіцаў. Над ... працуе 11 год (1845—18...



*Зьлева унізе: Пісьменьнік Пляцыд Янкоўскі (вуніяцкі, а пасьля праваслаўны сьвятар). Партрэт, зроблены мастаком Іванам Хруцкім у 1847 г. у Вільні; знаходзіцца у Кракаўскім Музэі. Здымак зроблены фат. Шыманчыкам у Слоніме з друкаванай рэпрадукцыі.*



*«Садовіна і кветкі». Алейны мадюнак, зроблены маст. Іванам Хруцкім у 1839 годзе у Пецярбурзе. Знаходзіцца у Маскве у Дзяржаўнай Трэцякоўскай Галерэі. Здымак зроблены фат. Шыманчыкам з каляровай рэпрадукцыі.*

*«М... у Пе... мастак Івана ... Шыманчык...*





[illegible] пулярны ён і як [illegible] партрэтыст. [illegible] Акадэмія Мастацтваў і «Эрмітаж» у Пецярбурзе [illegible] малюнкі мастака для сваіх зборў. Таксама закупляе [illegible] абразы і Румянцаўскі музэй у Маскве для [illegible] галерэі малюнкаў. Слава мастака дайшла да царскага двара, і ён [illegible] колькі працаў [illegible] прымліваючы ап[illegible] ... ад цара — [illegible] жанэцкі [illegible].

У 1838 годзе Акадэмія Мастацтваў у Пецярбурзе [illegible] мастака Івана [illegible].

У 1844 годзе мастак жыве у купленым [illegible] фальварку на Полаччыне і [illegible] просіны ад беларускага мітрапаліта Язэпа Сямашкі [illegible] росьпісі іканастасаў і [illegible] цэрквах Вільні і [illegible]. Над гэтым мастак [illegible] (1845–1856). Апрача таго ён займаецца і партрэтным малярствам.

Рэшту жыцьця мастак праводзіць у Захарнічах на Полаччыне. Памёр у 1885 годзе.

З партрэтаў, намаляваных мастаком, ведамымі былі і дайшлі да нас наступныя: партрэт мітрапаліта Сямашкі (партрэт захоўваецца у Вільні), пісьменьніка-журналістага Пляцыда Янкоўскага (захоўваецца у Кракаўскім музэі), партрэт Ромэраў (у Вільні).

Мастак браў удзел у працах над «Альбомам Вільні» Вільчынскага, зьмясьціўшы там свае краявіды Вільні і ваколіцаў.

Паводля дадзеных крэўных мастака, шмат ягоных малюнкаў было у мітрапаліта Сямашкі. (Дзе знаходзіцца цяпер калекцыя — няведама).

У Захарнічах мастак пабудаваў на магільніку невялічкую царкву, у якой размалёўвае абразамі усе сьцены.

Малюнкі Івана Хруцкага з галіны нацюрморту надзвычайна рэалістычныя. Здольнасьць перадаваць на палатне нежывыя рэчы з сілаю рэальнага адчуваньня прывабліваe гледача да абразоў. Гэткія абразы, як: «Гароднiна і плады» і «Кветкі і плады» зьяўляюцца пэрламі з галіны нацюрморту. Таксама і у галіне партрэтнага малярства мастак дасягнуў вялікае вышыні.

Дакладнасьць рысунку, рэалізм, праўдзівасьць у адтварэньні характару мадэлі характарызуюць працы мастака.

Мастак быў вельмі пладавіты і ягоныя малюнкі таксама і партрэты можна сустрэць ва усёй Беларусі.

Шмат абразоў з галіны рэлігійнага мастацтва працы Івана Хруцкага знаходзіцца у цэрквах Полаччыны і Вільні, а менавіта у царкве сьв. Духа.

*Н. Жур.*

*Уверсе зьлева: «У пакоях». — Алейны малюнак (1855 году, ф. Захарнічы — Полаччына); знаходзіцца у Маскве у Дзяржаўнай Трэцякоўскай Галерэі. Малюнак прадстаўляе пакоі у захарніцкім доме, дзе жыў мастак; хлопчык — сын мастака Юзюк, дзяўчынка — дачка маст. Марылька. Здымак фат. Шыманчыка з рэпрадукцыі.*

*Уверсе: «Прадмесьце Сьніпішкі у Вільні», рысунак мастака Івана Хруцкага з «Альбому гор. Вільні» выданьня І. Вільчынскага. Здымак зроблены фат. Шыманчыкам у Слоніме з гравюры Э. Фіндэна (Лёндан).*

*Унізе: Юзюк Хруцкі, сын мастака Хруцкага, — алейны партрэт, намаляваны мастаком Ів. Хруцкім у 1855 г. у ф. Захарнічах (Полаччына). Здымак зроблены фат. Шыманчыкам у Слоніме з арыгіналу, які знаходзіцца у Слоніме (собскасьць унука мастака).*

[illegible] *[illegible] зроблены маст. [illegible] Знаходзіцца [illegible] Галерэі. Здымак [illegible] рэпрадукцыі.*

*[illegible]ёртвая натура». Алейны малюнак, зроблены маст. Іванам Хруцкім у 1839 годзе [у] Пецярбурзе. Знаходзіцца у Слоніме (прыватная собскасьць І. Хруцкага, унука [мас]така Івана Хруцкага). Здымак зроблены з арыгіналу фатографам Язэпам [Ш]ыманчыкам у Слоніме.*








*(Праця́г).*

ДЗЯЎЧАТЫ: Сваты! Сваты прыехалі!

МАЦІ: Ах, Божухна!
*(Пачынаецца мітусьня. Бацька хутка ідзе да лавы і, сеўшы пры стале, пачынае пільна поркацца у падраным хамуце. Маці кідаецца абціраць сталы і лавы, Настуля уцякае за печ і там моцна прытуляецца да Пятруся. Чуецца стук у дзьверы. Усе маўчаць. Стук паўтараецца.)*

БАЦЬКА: Просім!
*(У хату уваходзіць Сьцяпан са сваім дзядзькам — сватам, абодвы у кажухох і бурках.)*

СЬЦЯПАН і СВАТ *(Ад парогу.)*:
Добры вечар, людзі добрыя!

БАЦЬКА і МАЦІ *(Не падымаючы галавы.)*: Добры вечар!
*(Маўчаньне... Сват і жаніх тупаюць ля парога. Дзяўчаты сьмяюцца, зьбіўшыся у куце, як авечкі.)*

СВАТ: Ехалі мы ля крыніцы,
Напаткалі куніцу.
Мы за куніцаю — у лясок,
Мы за куніцай — у верасок,
Па ельнічку, па бярэзьнічку,
Ажно і заблудзіліся...
*(Да маладога.)* Ці-ж не?

СЬЦЯПАН: А тут і завечарэла.

СВАТ: Дазвольце, людзі добрыя, на начаваць,
Ды тавару вашага патаргаваць!

БАЦЬКА *(Седзячы, як і раней.)*:
Тавару?
*(Вятлівей.)* Сядайце, людцы, сядайце, госьці будзеце!

СВАТ: Дзякуй, у хаце сядзелі,
А тавару не пaглядзелі!

БАЦЬКА: Чаго-ж шукаеце, людзі добрыя?

СВАТ: А шукаем мы тую кветку,
Што цьвіце і ўзімку, і ўлетку.
А я на тое прысланы, —
Каб быў стол засланы!
*(Пры гэтых словах гаспадар устае з лавы, падыходзіць да гасьцей і ветліва запрашае іх сесьці. Сват вядзе маладога за стол. Яны распранаюцца з большага. Бацька садзіць іх на куце. Кацярына і дзяўчаты падыходзяць бліжэй і пачынаюць сьпяваць.)*

ХОР: За гарою бяроза вецьце гнець,
Там наша Настулька вянкі ўець!
За ёю татухна пасьлы шлець,
Пакінь, дачушка, вянкі віць,
Хадзі са мною мёду піць.
Не пакіну, татухна, вянкі віць,
Не пайду з табою мёду піць,
А мне вянкі віць — любата,
А мне мёду піць — сухата!
*(Малады міргае на свата. Той выймае з кішані хустачку, пасьцілае на стале і стаўляе на ёй гарэлку і хлеб, які ён таксама выцягвае з кішані.)*

ХОР: Наляцелі гусі ды з Белае Русі,
Селі, палі, на крыніцу,
Сталі яны ваду піць.
Наехалі госьці
Ды з чужой валосьці,
Селі яны за сталом,
Сталі яны мёд, віно піць,
Ды кулакамі аб стол біць...

СВАТ: Ну, дык як?
Ці знойдзем мы ў вас тую кветку,
Што красуе ўзімку і ўлетку?

БАЦЬКА: Штось ня ўцямлю, якую гэта кветку?
*(Бярэ за руку Кацярыну і падводзіць яе да стала.)*

СВАТ: Не, ня гэтая!

ХОР: Не, не, не, ня гэтая!

БАЦЬКА *(Хапае за рукі іншую дзяўчыну.)*:
А мо' гэтая вам да спадобы?

СВАТ: Не, ня гэтая!

ХОР: Не, не, не, ня гэтая!

БАЦЬКА *(Цягне за руку Настулю.)*:
А мо' гэтая?

СВАТ: Але, гэтая!

ХОР: Але, але, гэтая!

КАЦЯРЫНА *(Сьмяецца.)*:
Ды нашто вам краска тая?

СВАТ: А ёсьць тут у мяне агароднічак.
Ён яе паліваць будзе,
Ён яе даглядаць будзе!
*(Паказвае на маладога.)*

КАЦЯРЫНА: Ён? Ды дзе-ж ён патрапіць?

ХОР: Дзе-ж, дзе-ж патрапіць?
*(Усе сьмяюцца. Маці падыходзіць да стала, засьцілае чысты абрус і стаўляе на ім сватаву гарэлку.)*

СВАТ *(Устае і выходзіць на сярэдзіну хаты.)*:
Сьцяпан мой не патрапіць?
*(Хвасьліва.)*
Ён — гаспадар у хаце,
А хата ў яго, хата!
Усім рáда! Ўсім багата!
Ў садку у нас — ці чулі?
Растуць на пудзе дулі,
Гурочкі у гародзе
Дык роўныя калодзе!
А пчолы нашы, пчолы!
Із добрага сакола!
Назносяць столькі мёду,
Што склеп наб'ём, як лёдам!
Авечкі ў нас, як коні,
Каноплі — як сасоньнік,
А ўсяго-ж чыста — многа!
Ну, словам — дзякуй Богу!
*(Малады задаволенаківае галавой.)*

МАЛАДЫ: Так, словам дзякуй Богу!

ХОР: Так, дзякуй, дзякуй Богу!

СВАТ: А малады — разважны,
Разумны і адважны!
Дасьць лёс з ваўком сустрэцца,
Дык на'т не скалыхнецца!
Чартá сустрэне ў ночы, —
На'т не апусьціць вочы.
*(Штораз бліжэй у азарце падыходзіць да стала.)*
А толькі замахнецца!
*(Замахваецца і, няхочучы, ударае маладога.)*

МАЛАДЫ: Ай! *(Сьмех.)*

СВАТ: Даруй! Бывае...
*(Далей.)*
Ну, хто-ж не пакахае?
*(Выцірае хусткаю лоб і сядае.)*

МАЦІ *(Стаўляе на стол чарку.)*:
Ой, хто-ж не пакахае!

ХОР: Не пакахае, не пакахае!

СВАТ *(Адсапнуўшыся.)*:
Ну, як жа-ж будзе?

МАЦІ: А гэта як дачушка скажа!

БАЦЬКА: Няволіць ня будзем!

МАЛАДЫ: Настуля! Няўжо-ж ты мяне не кахаеш?

СВАТ: Ну, што-ж?
*(Маўчаньне. Настуля стаіць плячыма да хаты і калупае пальцам печ. Побач з ёю, зацiснуўшы кулакі, стаіць Пятрусь.)*

ХОР: Ляцелі каршуны цераз бор,
А селі каршуны к нам на двор.
Чаго-ж тыя каршуны лятаюць,
Яны шэрую качачку шукаюць.
Прыляцелі каршуны з сакалом,
Пасадзілі каршуноў за сталом.
Частуюць каршуноў, частуюць,
Шэрую качачку не ратуюць.
А ты, шэра качачка, хавайся,
Лютаму сакалу не' давайся!
Бо ён цябе, качачку, прыклюе,
У чужую старану занясе!

МАЦІ *(Сілком цягне Настулю за стол.)*:

ПЯТРУСЬ: Ня стрываю, дзеду!

ДЗЕД: Ціха, хлопча, ціха!
Першая гарэлка — не заручыны!

ПЯТРУСЬ: Аддадуць яе — заб'юся!

ДЗЕД: Супакойся!
*(Сьцяпан прабуе прытуліць і абняць Настулю. Тая ухіляецца.)*

СВАТ: Ня цурайся яго, красачка!
Ён як пацалуе — як мёдам пасмаруе!

МАЛАДЫ *(Сквапна.)*: Але, але!
Ды ці-ж тое яйчэ я патраплю?
*(Агульны сьмех. Пятрусь прыглядаецца гэтай сцэне з зацiснутымі кулакамі, а пасьля няпрыкметна кідаецца з хаты.)*

СВАТ *(Налівае гарэлку у чаркі.)*:
Дык п'ем барыш?

БАЦЬКА і МАЦІ: Хай сама кажа!

ХОР: Ды цераз мой двор,
Ды цераз мой двор,
Цяцера ляцела.
Ды ня даў мне Бог,
Ня судзіў мне Бог,
За каго я хацела
З кім я стаяла,
Размаўляла,
Ды падарачкі брала.
З каго кпіла,
Сьмяялася, —
Сама таму дасталася!

МАЛАДЫ: Дык ты з мяне кпіла?

СВАТ *(З абурэньнем)*: Што ты?
Хто-ж з цябе кпіць будзе, хіба дурань?
*(Усе сьмяюцца. Малады хапае Настулю і хоча пасадзіць сабе на калені і пацалаваць. Настуля вырываецца, сват рагоча, задаволены. У гэтым часе у сенях разьлягаецца страшэнны стукат і грукат, дзьверы з шумам расчыняюцца і у хату урываецца натоўп мужчын у шапках, насуненых на вочы ці у кажухох, воўнаю загары, з кіямі і віламі; наперадзе іх — пераапрануты Пятрусь, які кідаецца да Сьцяпана.)*

НЕЗНАЕМЫЯ: Цюй-га! Цюйга! Бяры яго! Вяжы яго!
*(У хаце паўстае страшэнны перапалох. Дзяўчаты з віскам ціснуцца па кутох, сват лезе пад стол, а малады, трасучыся ад страху, спрабуе улезьці пад печ.)*

ДЗЯЎЧАТЫ: Ай, разбойнікі, разбойнікі!
Ай, ай!

*(Праця́г будзе)*

# Нямецка–беларускія размовы

**Абазначэньне вымовы нямецкіх словаў беларускімі літарамі:**

**а:, э:, і:, у:, о:** — вымаўляць працяжна;
**г'** — як г у слове ганак ці лацінскае **g**;
**ю̈** — як **і**, але з выцягнутымі вуснамі;
**ö** — як **э**, але з выцягнутымі вуснамі;
**н'** — як **н**, але вымаўляць праз нос;
усе іншыя літары — як і беларускія.

**Wieviel bin ich Ihnen schuldig** (ві:фі:ль бін іхь і:нэн шўльдіхь)? — Колькі я павінен Вам заплаціць?

**Können Sie mir ein Paar Stiefel auf Bestellung machen** (кöнэн зі: мі:р айн па:р шті:фэль аўф бэштэлюн' мáхэн)? — Ці Вы можаце мне зрабіць пару ботаў на заказ?

**Gut, mein Herr, ich will gleich Mass nehmen** (г'у:т, майн гэр, іхь віль г'ляйхь ма:с нэ:мэн). — Добра, спадару, я зараз здыйму мерку.

**Für meine Arbeit garantiere ich** (фю̈р мáйнэ áрбайт г'аранті:рэ іхь). — Сваю працу я гарантую.

**Können Sie mir diese Schuhe zu heute nachmittag besohlen** (кöнэн зі: мі:р ді:зэ шу:э цу гóйтэ нáхмітак бэзо:лен)? — Ці Вы можаце падбіць падноскі пад гэтыя камашы да сяньня папаўдні?

**Setzen Sie auch neue Absätze darauf** (зэцэн зі: аўх нóйэ áбзэцэ дарáўф). — Прыбіце таксама новыя абцасы.

**Der Absatz ist ganz schiefgetreten** (дэр áбзац іст г'анц ші:фг'этрэ:тэн). — Заднік зусім крыва зношаны.

**Ein kleines Loch ist im Leder** (айн кляйнэс лёх іст ім лé:дэр) — У скуры невялічкая дзірка.

**Setzen Sie einen Flick darauf** (зэцэн зі: áйнэн флік дарáўф)! — Пакладзіце латку на ёй!

**Gesinde, Land** (г'эзіндэ, лянт) — **Хутар, зямля.**

**Ein Gesinde von fünfzig Hektar** (айн г'эзіндэ фон фю̈нфціхь гэктá:р). — Хутар у пяцьдзясят гектараў.

**Der Bauernhof liegt am einem Flusse** (дэр бáўэрнго:ф лі:кт ам áйнэм флюссэ). — Сялянскі хутар ляжыць пры рацэ.

**Haben Sie dieses Grundstück gepachtet** (гá:бэн зі: ді:зэз г'рунтштю̈к г'эпáхтэт)? — Ці Вы арэндуеце гэты грунт?

**Nein, ich bin Eigentümer des Grundstückes** (найн, іхь бін áйг'энтю̈мэр дэз г'рунтштю̈кэз) — Не, я уласьнік гэтага грунту.

**Wem gehört dieses grosse Gut** (вэ:м г'эгöрт ді:зэз г'ро:сэ г'у:т)? — Каму належыць гэты вялікі двор?

**Es ist ein Staatsgut** (эс іст айн шта́:тсг'у:т) — Гэта дзяржаўны двор.

## ГУМАР

### Ля паштовай скрынкі

— Чаму ты, Алесь, ля паштовай скрынкі бібікі б'еш?

— Я паслаў верш у часапіс. Ну, а адказ, кажуць, чакай у паштовай скрыньцы. Вось і чакаю...

### Задаволіў

— Паслухай... Калі я туды пайду, дык там знаходзіцца тэатральная плошча?

— Калі-б ты туды і не пайшоў, дык яна знаходзіцца там.

### Ля хаты-чытальні

— У цябе курыльная паперка ёсьць?

— Бачыш: хату-чытальню адчынююць, там павінна быць.

### У Загс'е

— Паслухайце, грамадзянка, вы жадаеце забрацца з Даніловічам, а ў заяве напісана Рыгаровіч?

— Ды вы, грамадзянін, напраўце, калі-ласка. Пакуль я у чарзе стаяла, дык у другога закахалася.

### На перавыбарах

Адзін прамоўца на перавыбарах у каапэратыў сказаў:

— Старых растратчыкаў мы адхілім і выберам новых.

### Апэтыт

— Эх, бяда!.. Прапісаў доктар маймм Лявону чарку перад ядой...

— Дык-жа-ж тут нічога страшнага няма.

— Як няма? Ён-жа пачаў цяпер есьці па чатыры разоў у дзень!

*— Бабунька, ты да нас пяшком прыйшла?*
*— Пяшком, дзетка.*
*— А чаму-ж тата кажа мамусі, што цябе чорт прынёс?*

### Пэўны сродак

— Чаму у цябе такі выгляд? Ты хворы?

— Страшэнна баліць галава.

— Ты ведаеш, калі у мяне баліць галава, дык варта маёй нявесьце пацалаваць мяне, — тады увесь боль раптоўна праходзіць.

— Будзь хлопцам, скажы мне ейны адрас.

### Камплімэнт

Госьць, упяршыню наведаўшы дом калегі, з захапленьнем кажа гаспадыні дому:

— Якое шчасьце пазнаёміцца з вамі? Ваш муж так шмат мне гаварыў пра вас, ён вас гэтак любіць: «Мая ненаглядная Ніначка» — не сходзіць з ягонага языка.

Гаспадыня:

— Дзіўна! Маё-ж імя — Марыя.

### Будучы адвакат

— Які ты дурненькі! Ніколі праўды не кажаш. Ну што-ж з цябе будзе, калі вялікі вырасьцеш?

— Адвакат, тата.

### Хлусьня

— Спадар Заліхвацкі, праўда, што вас учора скінулі са сходняў?

— Бессаромная хлусьня! Мяне толькі наверсе выцялі у карак, а уніз я сам скаціўся.

### Хто быў першы!

Аднойчы між сабку лекар, інжынэр і камуністы заспрачаліся аб тым, хто быў першым чалавекам на зямлі.

Лекар: — Я быў першым чалавекам, бо без мяне нельга было-б з рабрыны Адама зрабіць Еву.

Інжынэр: — Не, я быў першым, дзеля таго, што без інжынэра нельга было-б пабудаваць сьвет з хаосу.

Камуністы: — Вы абодвы памыляецеся... Каб не было камуністага, дык як стварыўся-б хаос?

### Правільна

Вучыцель: — Янучок, скажы, як будзе у множным ліку фунт?

Янучок: — Адзін пуд, спадар настаўнік.

### За ейнае здароўе

Жонка Пятровіча цяжка хворая, а ён сядзіць так бястурботна у піўнушцы.

Але ён кажа, што п'е за ейнае здароўе.

### Нясьмелы

— Мой Юрка страшэнна нясьмелы. Я нічэ такога нясьмелага чалавека не спатыкала у сваім жыцьці.

— Дык як-жа ён змог ажаніцца?

— Быў настолькі нясьмелы, што не адважыўся адмовіцца.

### Заплата

У краму прыйшла дзяўчына і пытаецца:

— Скажэце калі ласка, колькі каштуе мэтар шоўку?

— Адзін пацалунак, — адказвае жартаўлівы крамнік.

— Будзьце ласкавы, адмерайце мне 10 мэтраў, а рахунак заплаціць мая бабуня.